На прастор, на шырокі разлог
Выходзі, мой народ, грамадо...

Якуб Колас

# Народная Воля

№ 209 (561)
Пятніца, 20 лістапада 1998 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 4000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.




**Так и сказал...**

*Александр ПОТУПА, профессор:*

## "Судя по всему, до громкого захлопывания "железного занавеса" и превращения страны в полноценную соцлагерную зону особого режима осталось полшага"

Самые опасные сценарии развития Беларуси, о высокой вероятности реализации которых я говорил 3—4 года назад, к сожалению, воплощаются почти в лабораторно чистой форме. В государственном секторе общества установлена четкая **диктатура** — президент имеет возможность совершенно бесконтрольно управлять армией чиновников. С этого плацдарма ведется **интенсивная тоталитаризация** экономики и третьего сектора. С экономикой все понятно — она испытала своеобразный **антирыночный фазовый переход**. Фактически это уже административно-командная экономика, точнее — по функциональным признакам **репрессивно-экспроприационная**. Остатки легального предпринимательства методично ликвидируются либо выдавливаются из страны. Последствия уже ясно просматриваются на прилавках и в кошельках — **по средним зарплатам и пенсиям Беларусь находится в числе самых нищих стран Европы**, и остается совсем немного до полного торжества талонно-распределительной системы. В сущности, эквивалентный фазовый переход испытала и официальная внешняя политика — Беларусь начисто вылетела из европейского политико-правового пространства и ускоренно втягивается в "братский круг" антизападных маргиналов, уверенно занимая "призовые места" во всемирных списках нарушителей прав человека и свободы слова. Судя по всему, до громкого захлопывания "железного занавеса" и превращения страны в полноценную **соцлагерную зону особого режима** осталось полшага — полная продажа предприятиями валюты государству и запрет на ее хранение гражданами, разрешительная система выезда за рубеж и какой-нибудь закон (декрет? указ? телеграмма?) об антигосударственной деятельности. Мало не покажется.

Идет мощное наступление на демократически ориентированный третий сектор — то есть на неправительственные организации. Сосредоточенные здесь общественные организации (включая и фактически полностью вытесненные из структур государственного управления оппозиционные партии), негосударственные СМИ, аналитические центры полностью лишены не только государственной поддержки, но, по сути, и поддержки коллапсирующего отечественного бизнеса. Исключительно важная и ценная помощь зарубежных и международных фондов наполовину съедается налогами. Ряд крупных организаций подавляется с помощью специфических проверок, специально вводимого лицензирования, прямого преследования лидеров. Активно монтируется пропрезидентский третий сектор, ресурсная база которого постоянно растет. В этих условиях деятельность в руинах белорусского гражданского общества — своеобразное **подвижничество**. Отнюдь не стремясь заниматься политикой, сотни организаций и общественных лидеров фактически оказываются в рядах оппозиции со всеми вытекающими отсюда последствиями. Для подавляющего большинства, начисто лишенного личных политических амбиций, это создает крайне неприятную психологическую нагрузку.

*(Из выступления на II Ассамблее неправительственных организаций Беларуси 14.11.1998 г.)*

**Рубам!**

## Ці ведаюць гэтыя "інтэграсты", на што яны замахваюцца, што іх чакае?

Сродкі масавай інфармацыі паведамляюць аб намаганнях так званых інтэгратараў па аб'яднанні Беларусі з Расіяй. Ідуць сур'ёзныя размовы аб стварэнні саюзнага парламенту, адзінага грамадзянства.

Але ў адпаведнасці з першым артыкулам Канстытуцыі, якую ніхто не адмяняў і за якую прагаласаваў на другім рэферэндуме народ, Беларусь з'яўляецца незалежнай дзяржавай. Таму ўвесь гэты "аб'яднаўчы" працэс незаконны і не можа быць прызнаны сапраўднымі патрыётамі Беларусі.

Іншыя народы змагаюцца за сваю незалежнасць, а ўдзельнікі рабочай дэпутацкай групы па аб'яднанні з ліку беларускіх "палатнікаў" спрыяюць яе страце, як быццам незалежнасць ім нечым перашкаджае.

Плануемае ўтварэнне адзінай дзяржавы прывядзе да змянення канстытуцыйнага ладу нашай краіны іператворыць яе ў частку і прыдатак Расіі, як гэта ўжо было. Але ў адпаведнасці з артыкулам 3 Канстытуцыі "...Любыя дзеянні па змяненні канстытуцыйнага ладу і дасягненні дзяржаўнай улады гвалтоўнымі метадамі, а таксама шляхам іншага парушэння законаў Рэспублікі Беларусь караюцца згодна з законам".

Калі ж гэта робіцца са згоды або па даручэнні нашага прэзідэнта, то ён яўна парушае свой абавязак гаранта Канстытуцыі, на якой кляўся, уступаючы на пасаду. Тады можна сказаць: а навошта нам такі прэзідэнт, які спрыяе страце незалежнасці замест таго, каб яе абараняць у адпаведнасці з Канстытуцыяй? Мы яго выбіралі як прэзідэнта незалежнай Беларусі, а не ў якасці генерал-губернатара. Імкнучыся да аб'яднання з Расіяй, прэзідэнт сам сябе пазбаўляе легітымнасці.

Незалежнасць абараняюць усе прэзідэнты ўсіх, акрамя Беларусі, існуючых краін. Ніводная краіна СНД не імкнецца зараз да аб'яднання з крымінальнай і крызіснай Расіяй, акрамя пэўных сіл Беларусі. На першым рэферэндуме беларускі народ дазволіў толькі эканамічную інтэграцыю з Расіяй, хоць яна мала якую карысць прынесла нам. А зараз па віне Расіі пакутуем ад яе фінансава-эканамічнага крызісу. Палітычнай інтэграцыі і тым болей — стварэння адзінай дзяржавы з Расіяй беларускі народ не дазваляў, і паводле дзеючай Канстытуцыі гэта забаронена.

Навошта ж тады гэты "аб'яднаўчы агарод" гарадзіць?

І ці задумваюцца тыя, хто гэтым займаецца, на што яны замахваюцца і што іх чакае?

**Марат ГІРКО.**

Мінск.

**Хачу спытаць...**

## Дзеля чаго нам хлусілі?

Добра памятаю, як два вялікія беларускія палітыкі, В.Ф.Кебіч і А.Р.Лукашэнка, селі за "круглы стол", пачалі перацягваць кожны на свой бок будучых выбаршчыкаў. Галоўным пытаннем у жыцці краіны тады, як і зараз, была эканоміка, пакладзеныя "на лапаткі" фабрыкі і заводы, разваленыя і апусцелыя калгасныя фермы. Калі ў Кебіча — прэм'ера — не знаходзілася рычагоў, каб падтрымаць "жыццёвы тонус" гаспадаркі рэспублікі, то ён, кандыдат у прэзідэнты, і не змог нічога прыдумаць, каб падмануць электарат і сваёй воляй пасадзіць Кебіча ў прэзідэнцкае крэсла. А вось кандыдат у прэзідэнты А.Р.Лукашэнка катэгарычна і пераканаўча абнадзеіў беларускі народ: "Мы запустим фабрики и заводы", "Мы очистим склады от нереализованной продукции". Як Кебіч ні дапытваўся: "А як вы гэта зробіце?" — Лукашэнка сваіх карт не раскрываў. Я слухаў іх і думаў: "Зрушыць эканоміку Беларусі Кебіч зусім не здольны. Лукашэнка ведае, як гэта зрабіць, але баіцца, каб яго апанент не перахапіў і не скарыстаў магічнай чарадзейнай палачкі". Праходзяць выбары. Уладар гэтых сакрэтаў становіцца прэзідэнтам. Потым з прэзідэнцкага крэсла перасаджваецца ў царска-імператарскае і губляе тую чарадзейную палачку. Эканоміка ўсё глыбей і глыбей патанае ў бездань, долар усё даражэе і даражэе, на "цвёрдую" беларускую валюту я магу купіць усё меней і меней тавараў, жыву з кожным днём горш і горш, хоць нацыянальны валавы даход і павялічваецца на 12%. Убачыўшы гэта і паразважаўшы, я прыйшоў да думкі: кандыдат у прэзідэнты А.Р.Лукашэнка ніякай чарадзейнай палачкі і не меў. Ён свядома нас падманваў, каб сесці ў самае ўладарнае крэсла, якое чатырма нагамі стаіць на засакрэчаным бюджэце і падсілкоўвае ўладароў як іх уласная сямейная савакупная зарплата. Не маючы за душой ніякіх канкрэтных планаў вываду краіны з катастрафічнага крызісу, А.Р.Лукашэнка, як тапелец, ухапіўся за кебічаўскіх рэфарматараў: Лінга, Мясніковіча, Замяталіна і г.д. І як вынік, "сии птенцы гнезда Петрова" з А.Р.Лукашэнкам на самым версе "вертыкалі" штодзень усё глыбей і глыбей топяць і топяць Беларусь. І ўтопяць. Калі сваё балота не зможа пахаваць нас — дапаможа расійскае, яно бяздоннае і патыхае такім прыемным пахам.

**В.СКАРАХОД, пенсіянер.**

Мінск.

**Реплика**

## Собачья жизнь...

На днях зашла в продуктовый магазин. В колбасном отделе на витрине рядом с супердорогими лично для меня колбасно-мясными деликатесами лежала колбаса "Тузик". По шестьдесят восемь тысяч за килограмм. Честно говоря, мне до слез стало горько и обидно. Колбаса для собак продается не в специальном отделе, вместе с "Вискасами", "Китекетами" и прочими кошачье-собачьими радостями, а лежит рядом с дорогостоящими сосисками, рулетами, карбонатами и аппетитными мясными вырезками.

Честно говоря, я восприняла эту натуралистичную картину, как плевок в душу. Мол, не можешь заплатить за хорошую дорогую колбасу, значит, жизнь у тебя собачья. Вот и ешь "Тузик". Если все нужно понимать именно так, как поняла я, то это — откровенное хамство со стороны наших чиновников. В конце концов, "Тузика" можно было бы во что-нибудь и переименовать...

Я пересчитала свои "пенсионные" копейки. Денег хватало на полкило не самой дорогой колбасы. Или на три с половиной килограмма "Тузика"...

**Жанна ФЕОКТИСТОВА, пенсионерка.**

**Демократия по-белорусски**

## Публикация в "Народной воле" возымела действие: милицейский пост из кабинета судьи Трубникова убран

Административный судья Партизанского района Николай Трубников рвал и метал. "Сутки" сыпались направо и налево: Николай Романов — трое, Сергей Мацкойт — шесть, Вадим Конопацкий — пятнадцать, Вячеслав Сивчик — пятнадцать...

Задела, говорят, служителя Фемиды статья в "Народной воле" (N204 за 13.11.98г.), в которой было сказано, что Николай Алексеевич — всего лишь "судебный исполнитель" при начальнике районной милиции. О том, что это так, может убедиться всякий: между кабинетом Н.Трубникова и кабинетами других судей в суде Партизанского района установлен милицейский пост. А в Московском районе столицы административный судья вообще помещен прямо в здании РУВД. И правильно! Чего зря бензин жечь: составил протокол и тут же, не отходя от "кассы", выдал "заработанное" покарание.

Тем не менее после появления публикации в газете милицейский пост из самого кабинета судьи убрали. И теперь Николаю Трубникову отвечать за попрание процессуальных норм придется персонально.

Так в нарушение Конституции и Закона о профсоюзах члена Свободного профсоюза Николая Романова лишил права пользоваться юридической помощью юриста Свободного профсоюза.

Установив в судебном заседании, что Вадим Конопацкий присутствовал на "несанкционированном" шествии в качестве наблюдателя, подверг его административному аресту "на полную катушку".

Особо следует остановиться на судебном процессе Вячеслава Сивчика. Николай Трубников так торопился выполнить команду отправить за решетку секретаря управы БНФ, что вызвал "нарушителя" в суд не только не изучив материалы, но даже не имея на руках самого дела. Это означает, что повестку данный служитель выписывал по указанию начальства, причем явно не судебного. Обвиняемый заявил ходатайство об отводе судьи по причине его предвзятости, которое Николай Трубников не удовлетворил.

Более того, Вячеслава Сивчика судили по протоколу, составленному милицией в... 1997 году. "Несанкционированное" шествие 5 ноября 1998 года закончилась в 18.16, а на судебном процессе показывали видеозапись, где указано время 18.30, 18.40 и даже 18.50. Но для судьи Трубникова это все были мелочи. Надвигается массовая акция, связанная с годовщиной знаменитого референдума, и известный бэнээфовец должен быть за решеткой!

**Валерий ЩУКИН.**

**Происшествия**

## Домой с работы не вернулся...

Чрезвычайное происшествие произошло в одну из ночных смен на ОАО "Сморгонский комбикормовый завод". На рабочем месте с травмой головы был найден мертвым работник предприятия.

Начальник инспекции по охране труда, транспортной и пожарной безопасности Минсельхозпрода Леонтий Коктыш сообщил корреспонденту БелТА, что это 96-й по счету случай гибели работника на объектах агропромышленного комплекса за прошедшие десять месяцев текущего года. В прошлом году за этот же период таких случаев было 123.

**Олег ШВЕДОВ.**

## Сярод падазроных у выкраданні харвацкіх заложнікаў ёсць і грамадзянін Беларусі

Участковая пракуратура Каўнаса, якая расследуе гісторыю выкрадання двух грамадзян Харватыі, узбудзіла крымінальную справу супраць затрыманых вечарам 14 лістапада падазроных. А 16 лістапада Дэпартамент паліцыі афіцыйна аб'явіў прозвішчы, якія некалькі дзён трымаліся ў сакрэце. Гэта 26-гадовы грамадзянін Беларусі Сяргей Івановіч і 29-гадовы грамадзянін Літвы Рычардас Пілсудскіс. Як паведамляе літоўскае інфармацыйнае агенцтва ЭЛЬТА, абодва яны ўзяты пад варту. Аднак праваахоўныя органы лічаць, што ў арганізацыі выкрадання замежных заложнікаў удзельнічала больш асоб, і іх пошук працягваецца.

Заложнікі з Харватыі, якія ўтрымліваліся на працягу дзесяці дзён у адным з каўнаскіх дамоў, былі вызвалены атрадам хуткага рэагавання "Арас" вечарам 14 лістапада. У ходзе аперацыі ніхто не пацярпеў. Аднак выкрадальнікі, якія патрабавалі ў харватаў выкуп у 100 тысяч долараў, катавалі заложнікаў, таму пасля іх вызвалення 31-гадовага Сцяпана Спаніча з пераломам правай нагі і слядамі ад пабояў прыйшлося адправіць у Каўнаскую бальніцу. 25-гадовы Івіца Враныч лечыцца амбулаторна.

Інфармацыю аб магчымым выкраданні харвацкіх грамадзян крымінальная паліцыя Літвы атрымала 13 лістапада ад нацыянальнага бюро Інтэрпола Літвы, якое, у сваю чаргу, інфармавалі прадстаўнікі харвацкага Інтэрпола. Пазней высветлілася, што харваты, якія накіроўваліся ў Нарвегію на белым "Мерсэдэсе", 29 кастрычніка былі выкрадзены паблізу ад Клайпеды і дастаўлены ў Каўнас. Выкуп выкрадальнікі патрабавалі ад іх блізкіх, таму і дазволілі пазваніць на радзіму па тэлефоне мабільнай сувязі. Даведаўшыся аб няшчасці, блізкія выкрадзеных звярнуліся да харвацкай паліцыі.

**ЭЛЬТА-БелТА.**

**Не до жиру?**

## В Пинске отсутствие в продаже молочных продуктов, яиц объясняют их дешевизной и высокой потребляемостью... Ибо на другие денег у населения нет

В течение последних нескольких дней с прилавков магазинов в Пинске стали исчезать молочные и некоторые другие продукты, составляющие основу питания большинства населения.

В один из дней ни в одном из четырех исследованных магазинов нельзя было купить молоко, кефир, сметану, сливочное масло и некоторые другие продукты.

На следующий день утром только в одном из тех же четырех магазинов продавали сливочное масло по 200 граммов в одни руки. Молоко завезли, но продавцы говорили, что после обеда, когда люди будут возвращаться с работы, его точно не станет, поэтому лучше покупать сейчас.

На Пинском молочном комбинате уточнили, что **по сравнению с прошлым годом объем выпуска молочных продуктов не снизился, а даже возрос**. Отсутствие же молочных продуктов в торговле объяснили тем, что эти продукты — самые дешевые и их покупает все больше людей. Магазины резко увеличили заявки на молочные продукты.

Тяжелое положение сложилось в городе и с некоторыми другими продуктами. Уже который месяц в магазинах нет куриных яиц, а за сахаром, появляющимся в продаже крайне редко, выстраиваются длинные очереди.

Очевидно, что так называемая колхозно-совхозная "продовольственная безопасность" страны, по крайней мере в Пинске, не обеспечена.

**Алексей ДИКОВИЦКИЙ.**

## Прафсаюзы рыхтуюцца да масавай акцыі пратэсту

Аб гэтым паведаміў кіраўнік прафсаюза работнікаў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання Аляксандр Бухвостаў на прэс-канферэнцыі ў Мінску. Акрамя яго, заяўку падпісалі старшыні прафсаюзаў работнікаў Нацыянальнай акадэміі навук, абароннай, радыёэлектроннай прамысловасці, а таксама машына- і прыборабудавання.

Плануецца, што дэманстранты пройдуць трыма калонамі ад прахадных прадпрыемстваў да адной з трох плошчаў — Кастрычніцкай, Свабоды ці каля Палаца спорту. Мяркуемая колькасць удзельнікаў — 30 тысяч чалавек. Актыўны ўдзел у маючай адбыцца акцыі прымуць прафсаюзы работнікаў адукацыі і навукі, электратэхнічнай і паліўнай прамысловасці, якія на мінулым тыдні таксама падпісалі заяву аб стварэнні каардынацыйнага савета для арганізацыі акцый пратэсту ў Мінску і іншых рэгіёнах краіны.

Кіраўніцтва Федэрацыі прафсаюзаў беларускай падтрымала ідэю правядзення ў Мінску масавай акцыі. Выканкам Савета ФПБ заклікаў прафсаюзы і працоўныя калектывы рэспублікі "праявіць салідарнасць з іх дзеяннямі, накіраванымі на абарону канстытуцыйных правоў грамадзян на працу і дастойную заработную плату".

**Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН.**

## Меры Нацыянальнага банка Беларусі, накіраваныя на павелічэнне прапановы замежнай валюты на Міжбанкаўскай валютнай біржы, не займелі эфекту

Як вядома, з 2 лістапада, згодна з рашэннем Нацбанка, здзелкі па пакупцы і продажу замежнай валюты (у прыватнасці, амерыканскіх долараў) павінны ажыццяўляцца, за невялікімі выключэннямі, толькі на таргах МВБ і па афіцыйным курсе Нацбанка. Аднак пасля ўступлення гэтага рашэння ў сілу аб'ёмы таргоў не толькі не павялічыліся, але і, наадварот, прыкметна знізіліся. З 2 па 13 лістапада аб'ём таргоў склаў 17,735 мільёна долараў — на 3,529 мільёна, або на 16,6 працэнта менш, чым за перыяд з 19 па 30 кастрычніка.

**Дзмітрый УСАЎ.**

## Через Беларусь – до Нижнего Новгорода

Представители Министерства транспорта и коммуникаций Беларуси приняли участие в состоявшемся в Берлине подписании Меморандума о продлении второго транспортного коридора. Теперь его путь из Берлина через Варшаву — Минск — Москву протянется до Нижнего Новгорода.

Деловые круги Беларуси всегда с одобрением и готовностью воспринимали все намерения Западной Европы о продлении, формировании и обустройстве транспортных коридоров, пролегающих через территорию республики. Как сообщили корреспонденту БелТА в Минтрансе, недавно на состоявшейся в Женеве одиннадцатой сессии рабочей группы Комитета по внутреннему транспорту Европейской экономической комиссии ООН представители Беларуси выступили с предложением о переформировании пятого транспортного коридора Триест — Любляна — Будапешт — Львов — Киев таким образом, чтобы он подошел к границе нашей республики в направлении Минск — граница Украины — Сарны — Ровно — Львов. Оно было в целом одобрено представителями всех причастных к этой транспортной артерии государств.

**Татьяна СМИРНОВА.**

**Шаноўныя сябры!**

**НАПАМІНАЕМ:**
**працягваецца падпіска на першую палавіну 1999 года.**
**Спадзяемся, што адзіная рэспубліканская штодзённая незалежная газета будзе і надалей вашым любімым выданнем.**

**Вы з "Народнай воляй", "Народная воля" – з Вамі!**

**Стоп-кадр**



Такія сцэнкі часта ўбачыш на мінскіх вуліцах. Нават у холад.

Жанчына, якая просіць міластыню, схавалася ад пранізлівага ветру за вугал будынка. Але холад дастае, што яскрава відаць на яе твары. Але яшчэ больш дастае холад дзяржавы да такіх людзей.

**Фото IREX/ProMedia.**

**Па вашай просьбе**

## Што такое дыфамацыя?

Шаноўныя сябры! У нумары "Народнай волі" за 18 лістапада надрукаваны артыкул "Зянон Пазьняк — аб дыфамацыі генерала Чаргінца". У сувязі з публікацыяй некаторыя чытачы паведамілі нам, што ім не зразумелы сэнс слова "дыфамацыя", які даволі рэдка сустракаецца ў друку.

Просім прабачэння, што не патлумачылі тэрмін "дыфамацыя" адразу. Робім гэта зараз. Згодна з "Тлумачальным слоўнікам беларускай літаратурнай мовы" (Мінск, "Беларуская энцыклапедыя", 1996) слова **"дыфамацыя"** азначае: "апавяшчэнне ў друку звестак (сапраўдных ці ўяўных), якія ганьбяць, няславяць каго-небудзь".

Дзякуем усім, хто ўважліва і з цікаўнасцю чытае нашу газету.

**Рэдакцыя "Народнай волі".**

*Дэніэл Спекхард:*

## "Мы не хочам весці дыскусію аб тым, дзе будуць жыць паслы, куды яны пераедуць... Нас перш за ўсё хвалюе пытанне аб тым, ці будзем мы здольныя аднавіць тыя прынцыпы, паводле якіх ажыццяўляюцца дыпламатычныя зносіны"

*Пасол ЗША ў Беларусі Дэніэл Спекхард нядаўна даў інтэрв'ю карэспандэнту радыё "Свабода", у якім выказаў свой пункт погляду на адносіны ЗША і нашай краіны і ў прыватнасці — на канфлікт вакол Драздоў. Думаем, яно зацікавіць і нашых чытачоў.*

"Пасля майго вяртання ў ЗША я вельмі ўважліва адсочваю падзеі ў Беларусі з Вашынгтону: некалькі разоў на тыдзень гутару з супрацоўнікамі амбасады ў Мінску, раблю агляд дакументаў і аспектаў замежнай палітыкі, што зыходзяць ад Дзярждэпартамента і ўрада ЗША, праводжу сустрэчы і дыскусіі з афіцыйнымі асобамі на розных узроўнях пра накірункі і характар замежнай палітыкі ЗША. І я па-ранейшаму ўдзельнічаю ў штодзённым працэсе развіцця двухбаковых зносін паміж нашымі краінамі. Мне было вельмі няпроста вяртацца ў ЗША, таму што маё сэрца па-ранейшаму ў Беларусі, гэтак жа, як і мая афіцыйная пасада... Я захоўваю надзею і жаданне на вяртанне ў Беларусь, але перш-наперш мы павінны пераадолець тыя складанасці, што ўтрымліваюцца ў нашых узаемаадносінах".

*На пытанне аб прычынах канфлікту вакол Драздоў спадар Спекхард адказаў наступнае:*

"Мне падаецца, што Беларусь пакуль знаходзіцца ў працэсе вывучэння і разумення сваіх міжнародных абавязкаў, якія краіна прыняла, калі атрымала суверэнітэт і незалежнасць. Вопыт Беларусі зыходзіць з адміністратыўна-каманднай сістэмы, цэнтралізаванай улады, практыкі прытрымлівацца нацыянальных законаў і рашэнняў, з вельмі нязначным вопытам выканання міжнародных законаў і дамоўленасцяў. У дадзеным выпадку рашэнні, прынятыя на нацыянальным узроўні, супярэчылі міжнародным абавязацельствам. Гэта прывяло да канфлікту".

*Што тычыцца ўзаемаадносін паміж ЗША і Рэспублікай Беларусь і магчымасцяў развязвання канфлікту, спадар Дэніэл Спекхард сказаў наступнае:*

"Мы працягваем дыялог з беларускім кіраўніцтвам. І мы спрабуем растлумачыць, што гэта — не жыллёвае пытанне, мы не хочам весці дыскусію вакол пытанняў аб тым, дзе будуць жыць паслы, куды яны пераедуць і наколькі ўтульныя гэтыя месцы. Нас не вельмі хвалюе пытанне ўтульнасці альбо няўтульнасці месца, нас перш за ўсё хвалюе пытанне, ці будзем мы здольныя аднавіць тыя прынцыпы, паводле якіх ажыццяўляюцца дыпламатычныя зносіны. Якім чынам мы можам быць упэўненыя ў тым, што надалей амбасадарам ЗША будзе забяспечана ахова ў адпаведнасці з Венскай канвенцыяй і што і Беларусь, і ЗША адпаведна разумеюць і тлумачаць палажэнні Венскай канвенцыі? І я мяркую, што гэта ёсць найбольш складанае пытанне, якое нам трэба вырашыць. Некаторыя асобы з беларускага боку па-ранейшаму лічаць, што калі яны знойдуць амбасадарам прымальныя ўмовы для жыцця, то праблема будзе цалкам вырашаная, аднак праблема не ў гэтым. Пытанне ў тым, якім чынам мы адновім узаемны давер і ўпэўненасць у тым, што двухбаковыя дамовы, міжнародныя пагадненні і Венская канвенцыя будуць пакладзены ў аснову нашых узаемаадносін".

*Дэніэл Спекхард таксама выказаў спадзяванне, што ў рэшце рэшт праблема будзе вырашана. Аднак, паводле слоў пасла ЗША, сур'ёзную заклапочанасць Злучаных Штатаў выклікае і эканамічнае сітуацыя ў Беларусі, стан з правамі чалавека, адсутнасць сістэмы мясцовага самакіравання і рэальнага ўдзелу грамадскасці ў кіраванні дзяржавай.*

"Нашы патрабаванні застаюцца такімі ж, але сітуацыя, магчыма, стала больш складанай. Нашы патрабаванні не з'яўляюцца чымсьці, што мы спрабуем навязаць Беларусі, у тым сэнсе, што вы павінны адпавядаць тым ці іншым крытэрыям. Гэта не так. Нашы патрабаванні стасуюцца з тымі міжнароднымі нормамі і прынцыпамі, якія ўжо прынятыя міжнароднай супольнасцю, яны не ствараюцца адмыслова для Беларусі. І пытанне ў тым, дзе знаходзіцца Беларусь у кантэксце ўваходжання ў міжнародную супольнасць праз ажыццяўленне тых прынцыпаў, якія выкарыстоўваюцца большасцю развітых дзяржаў. І прынцыпы гэтыя застаюцца нязменнымі. Развіццё дэмакратычнай сістэмы, развіццё рынкавай эканамічнай сістэмы, інтэграцыя ў заходне- і ўсходнееўрапейскую супольнасць, развіццё добрасуседскіх зносін з памежнымі краінамі, павага да правоў чалавека і праяў асабістай ініцыятывы грамадзян — гэта тыя сферы, якія зараз развіваюцца, але павінны дасягнуць пэўнай ступені, пакуль Беларусь будзе здольная паспяхова інтэгравацца ў міжнароднае супольніцтва".

*На пытанне адносна крытыкі ў адрас афіцыйнага Вашынгтона, што да пэўнай нявызначанасці амерыканскай палітыкі ў дачыненні да Беларусі, калі прэвалююць расійскія інтарэсы і Беларусь разглядаецца ў сувязі з Расіяй, пасол Спекхард заўважыў:*

"Я не прымаю гэтую крытыку, бо ў Вашынгтоне вельмі ўважліва ставяцца да вызначэння ролі Беларусі і Расіі, і мы вельмі ўважліва выпрацоўваем узаемазносіны з Расіяй, каб не прыняць рашэнняў, што паставяць пад сумненне незалежнасць і суверэнітэт Беларусі. І тут, у Вашынгтоне, я назіраю, якое вялікае значэнне надаецца забеспячэнню захавання суверэнітэту і незалежнасці Беларусі. Фактычна афіцыйныя асобы ў Вашынгтоне, хутчэй, разглядаюць Беларусь у сувязі з Літвой, Польшчай і Украінай у сэнсе таго, у якім накірунку магла б развівацца Беларусь. Гэта эканамічныя пераўтварэнні, якія праходзяць у Польшчы і Літве, і дэмакратычныя змены, што адбываюцца ў гэтых краінах і якія б мы жадалі бачыць таксама ў Беларусі. Мы разглядаем гэтае пытанне ў кантэксце рэгіянальнай палітыкі. Зразумела, добра, што Беларусь мае такія цесныя ўзаемаадносіны з Расіяй, эканамічныя і гандлёвыя сувязі, аднак гэтага недастаткова. Каб краіна была сапраўды квітнеючай і багатай, трэба таксама развіваць стасункі і з краінамі Заходняй і Усходняй Еўропы.

Я буду шчырым і павінен сказаць, што распарадак дня ўтрымлівае шмат сур'ёзных міжнародных праблем і, нягледзячы на тое, што мне хацелася б, каб афіцыйныя асобы ў Вашынгтоне прысвяцілі ўвесь свой час праблемам Беларусі, гэта — немагчыма. Аднак я павінен зазначыць, што яны зацікаўленыя, заклапочаныя, і іх, безумоўна, хвалююць тэндэнцыі, што вызначыліся ў палітыцы Беларусі, аднак магчымасці Злучаных Штатаў вельмі лімітаваныя і вызначыць, у якім накірунку будзе развівацца Беларусь, павінен беларускі народ".

*Міхаіл ПАСТУХОЎ, доктар юрыдычных навук, прафесар*

# Ці законны рэферэндум па пытанні аб мове?

Час усё больш аддаляе нас ад майскага 1995 года рэферэндуму, калі група ўлады, спасылаючыся на вынікі "ўсенароднага галасавання", скасавала дзяржаўныя сімвалы беларускага народа і надала рускай мове статус дзяржаўнай разам з беларускай.

З пазіцый сённяшняга дня выразна відны разбуральныя вынікі такой ініцыятывы ўлады. Беларускі народ пазбавіўся сваіх нацыянальных сімвалаў. Замест спрадвечных нацыянальных флага і герба яму прапанавалі нейкія сурагаты савецкай сімволікі. Мова карэннай нацыі пачала хуткімі тэмпамі выціскацца рускай мовай ва ўсіх сферах дзяржаўнага і грамадскага жыцця. Згубіўшы свае нацыянальныя сімвалы і мову, беларусы апынуліся як бы адрэзанымі ад сваёй гісторыі і часова страцілі ўсякія арыентацыі. У такіх умовах над беларускай нацыяй навісла пагроза асіміляцыі рускамоўным насельніцтвам і, як вынік, непазбежнасць інкарпарацыі Беларусі суседняй Расійскай дзяржавай. Але да гэтага часу на грамадскае абмеркаванне не выносілася пытанне аб законнасці самога рэферэндуму. Ніхто так і не адказаў: ці можна было праводзіць рэферэндум па пытаннях аб змене нацыянальнай сімволікі і зніжэнні статусу беларускай мовы?

## Крыху гісторыі

Трэба нагадаць, што з ініцыятывай правядзення рэферэндуму выступіў прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнка. Падпарадкоўваючыся яго настойлівым патрабаванням, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь 12-га склікання прыняў пастанову ад 13 красавіка 1995 года №3728-XII "Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму па пытаннях, прапанаваных прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, і мерах па яго забеспячэнні".

У адпаведнасці з указанай пастановай у бюлетэнь для галасавання былі ўключаны наступныя пытанні:

1. Ці згодны Вы з наданнем рускай мове аднолькавага статусу з беларускай?

2. Ці падтрымліваеце Вы прапанову аб устанаўленні новых Дзяржаўнага флага і Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь?

3. Ці падтрымліваеце Вы дзеянні прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, скіраваныя на эканамічную інтэграцыю з Расійскай Федэрацыяй?

4. Ці згодны Вы з неабходнасцю ўнясення змяненняў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, якія прадугледжваюць магчымасць датэрміновага спынення паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь у выпадках сістэматычнага ці грубага парушэння Канстытуцыі?

Першае, другое і трэцяе пытанні выносіліся на абавязковы рэферэндум, рашэнне якога з'яўляецца канчатковым, а чацвёртае пытанне — для прыняцця кансультацыйнага рашэння, якое мае рэкамендацыйны характар.

Напярэдадні рэферэндуму ў Канстытуцыйны суд звярнуліся дэпутаты Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны з просьбай праверыць адпаведнасць Канстытуцыі прапаноў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь аб правядзенні рэферэндуму па пытанням аб мове. Але Канстытуцыйны суд адмовіўся разглядаць прапанову Камісіі, матывуючы сваё рашэнне тым, што ў кампетэнцыю суда не ўваходзіць праверка канстытуцыйнасці прапаноў прэзідэнта, не афармленых у выглядзе прававых актаў (гл.: Веснік Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь. 1995, №2-3, с.68—69).

## Лічбы — не галоўнае

Як вядома, рэферэндум адбыўся 14 мая 1995 года. Яго вынікі былі аб'яўлены Цэнтральнай камісіяй па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў 22 мая 1995 года. Так, па афіцыйных даных, у спісы грамадзян, маючых права ўдзельнічаць у рэферэндуме, было ўключана 7.445.820 чалавек, у галасаванні прынялі ўдзел 4.830.582 чалавекі, ці 64,8%. За адабрэнне пытання "Ці згодны Вы з наданнем рускай мове роўнага статусу з беларускай?" прагаласавалі 4.017.273 чалавекі, ці 88,3%, супраць прагаласавалі 613.516 чалавек, ці 12,7%, 192.693 бюлетэні прызнаны несапраўднымі (гл.: Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. 1995, №22-23, арт.332).

Але вышэйпрыведзеныя даныя не здымаюць з парадку дня пытанне аб канстытуцыйнасці самога рэферэндуму. Прычым гэта пытанне з'яўляецца вызначальным, галоўным. Калі прызнаць, што пытанні аб мове і аб замене дзяржаўнай сімволікі не маглі па дзеючым заканадаўстве выносіцца на ўсенароднае галасаванне, то "пабедныя" вынікі рэферэндуму губляюць сваю сілу і не цягнуць за сабой ніякіх прававых наступстваў. Іх проста трэба забыць і аднавіць ранейшае становішча.

## Беларускую мову прынізілі незаконна

Дык ці можна было выносіць на рэферэндум пытанне, пастаўленае першым у бюлетэні для галасавання, гэта значыць пытанне аб мове?

На гэтае пытанне я даю адмоўны адказ. І вось чаму.

Згодна з артыкулам 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 года, дзяржаўнай мовай Беларусі аб'яўлена беларуская мова, а руская прызнана мовай міжнацыянальных зносін.

Тым самым Асноўны закон краіны адназначна вырашыў пытанне аб дзяржаўнай мове. Гэта значыць, што на ім павінны былі выдавацца акты органаў дзяржаўнай улады, весціся справа- і судаводства, навучанне і г.д. Усе дзяржаўныя служачыя, уключаючы прэзідэнта, абавязаны валодаць беларускай мовай.

Дамінуючае становішча беларускай мовы замацоўвалася і ў Законе "Аб мовах у Беларускай ССР" ад 26 студзеня 1990 года. У адпаведнасці з ім беларуская мова атрымала ўсебаковае развіццё ва ўсіх сферах дзяржаўнага і грамадскага жыцця. У пастанове Вярхоўнага Савета "Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона "Аб мовах у Беларускай ССР" былі вызначаны тэрміны пераходу на беларускую мову (арыенціровачна да 2000 года).

Закон "Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь ад 13 чэрвеня 1991 года ўстанавіў, што на рэспубліканскі рэферэндум не могуць выносіцца, сярод іншых, пытанні, якія парушаюць неад'емнае права народа Рэспублікі Беларусь на суверэнную нацыянальную дзяржаўнасць, дзяржаўныя гарантыі існавання беларускай нацыянальнай культуры і мовы (арт.3).

З гэтых палажэнняў Канстытуцыі і законаў Рэспублікі Беларусь вынікае, што пытанні, накіраваныя на зніжэнне дзяржаўных гарантый існавання беларускай мовы, у тым ліку шляхам прыніжэння яе ролі ў параўнанні з іншымі мовамі, не могуць выносіцца на рэспубліканскі рэферэндум. Аналагічную выснову трэба зрабіць і адносна пытанняў аб змене Дзяржаўнага сцяга і Дзяржаўнага герба як пытанняў, якія замахваюцца на неад'емнае права беларускага народа на нацыянальную дзяржаўнасць.

## Справядлівасць пераможа

Тым самым вынікі рэферэндуму адносна надання рускай мове роўнага статусу з беларускай, а таксама адносна ўсталявання новай сімволікі з прававога пункту гледжання з'яўляюцца нікчэмнымі і падлягаюць адмене.

Як можна змяніць сітуацыю і як можна ануляваць вынікі незаконнага рэферэндуму? У прынцыпе, зрабіць гэта не так складана. Але для гэтага патрэбны адпаведныя ўмовы. Галоўная з іх — узнаўленне ў Рэспубліцы Беларусь асноў дэмакратыі, дзяржаўнасці і законнасці. Тады пытанне аб канстытуцыйнасці майскага 1995 года рэферэндуму непазбежна стане на парадак дня. Новы склад Канстытуцыйнага суда, утвораны дэмакратычным шляхам, можа разгледзець пытанне аб дзяржаўнай мове ва ўстаноўленым парадку і прыняць па ім законнае рашэнне.

Пройдзе час, і святыні беларускага народа — Мова, Герб, Сцяг — зноў зоймуць свае месца на п'едэстале гонару, стануць увасабленнем беларускай дзяржаўнасці і культуры.

# Некалькі блокаў пытанняў выносіцца на чарговае пасяджэнне Савета кіраўнікоў урадаў дзяржаў СНД, якое пройдзе 25 лістапада ў Маскве

Чарговае пасяджэнне Савета кіраўнікоў урадаў дзяржаў − удзельніц СНД пройдзе ў Маскве 25 лістапада. Пра гэта БелаПАН паведамілі ў прэс-службе Выканаўчага сакратарыята СНД у Мінску.

У парадку дня маючага адбыцца пасяджэння — больш за 30 пытанняў, разбітых на некалькі блокаў. У першы з іх уваходзяць два пытанні, па якіх прэм'ер-міністры толькі абмяняюцца меркаваннямі. Гэта пытанні аб сітуацыі на фінансавых рынках Расіі і іншых дзяржаў Садружнасці, а таксама аб ходзе Спецыяльнага міждзяржаўнага форуму для абмеркавання пытанняў аб удасканаленні дзейнасці СНД і яго рэфармаванні.

Другі блок складаюць праекты дакументаў, якія ўносяцца на Савет кіраўнікоў урадаў для падпісання. У яго, у прыватнасці, уваходзяць наступныя праекты: пагадненняў аб супрацоўніцтве ў вырашэнні праблемы ВІЧ-інфекцыі, а таксама аб стварэнні Міждзяржаўнай фінансава-прамысловай групы "Інтэрнавігацыя"; праекта міждзяржаўнай мэтавай праграмы развіцця Корпуса сіл СНД для ліквідацыі наступстваў надзвычайных сітуацый прыроднага і тэхнагеннага характару на перыяд да 2010 года.

Прэм'ер-міністрам таксама трэба будзе абмеркаваць і прыняць рашэнні па шэрагу пытанняў. У гэты блок, у прыватнасці, уваходзяць пытанні аб праграме забеспячэння да 2000 года сельскагаспадарчай тэхнікі аграпрамысловых комплексаў дзяржаў СНД, аб міждзяржаўным лізінгу, аб каардынацыі дзейнасці на рынку каштоўных папер.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.**

**Стоп-кадр**

Для пралукашэнкаўскага Беларускага патрыятычнага саюза моладзі ўлады расчыняюць усе дзверы, нават даюць памітынгаваць на Кастрычніцкай плошчы ў самым цэнтры Мінска. Але, як ні ўмацоўваюць БПСМаўцы свае лозунгі-транспаранты, сапраўдныя патрыёты Бацькаўшчыны ідуць не з імі. А з тымі, хто гатовы ахвяраваць сабой дзеля светлай, вольнай, шчаслівай будучыні Беларусі.

# Зимовка будет сложной

Текущая зимовка общественного скота обещает быть сложной. Такой неутешительный вывод сделал начальник отдела животноводства Минсельхозпрода Владимир Бабеня. В беседе с корреспондентом БелТА он отметил, что трудности в основном связаны с недостатком травянистых кормов. Их заготовлено меньше прошлогоднего. В этих условиях специалисты рекомендуют шире применять при кормлении скота различные добавки, а также обеспечить надежную сохранность и строгий контроль за расходованием фуража.

**Олег ШВЕДОВ.**

# Ці прыжывецца "дзіця" МАЗа ў кар'ерах?

Ці зможа самазвал Мінскага аўтазавода замяніць у кар'ерах магутныя і шырока вядомыя раней "Татры" і КраЗы? Такім пытаннем задаліся перш за ўсё транспартнікі, каб у самыя сціслыя тэрміны забяспечыць растучыя патрэбнасці будаўнічага комплексу. Як паведамілі карэспандэнту БелТА ў прэс-службе МАЗа, выбралі серыйны самазвал МАЗ-5516 грузападымальнасцю 20 тон, які выпускаецца ўжо некалькі гадоў. Праўда, прызначаны ён толькі для перавозкі сыпкіх грузаў.

Недалёка ад Мінска, у пясчаным кар'еры, адбыліся пробныя выпрабаванні гэтай мадэлі ў крыху непрывычнай для яе якасці. У ходзе "разведкі боем" спецыялісты ўнеслі шэраг прапаноў для дадатковай камплектацыі машыны. Пасля ўмацавання шэрага вузлоў яна будзе перададзена першаму грузавому аўтапарку Мінска для ўнутрыкар'ерных работ. Ці вытрымае гэты самазвал канкурэнцыю з "абарыгенамі" кар'ераў, ці стане выратавальнай "саломінкай" ва ўзмацненні транспартнага звяна ў будаўнічым комплексе — пакажа самы бліжэйшы час.

**Таццяна СМІРНОВА.**

# Рабочыя аўтасельгасмаша незадаволены сваімі заробкамі

Рэспубліканскі савет прафсаюза работнікаў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання правёў анкетаванне на 24 прадпрыемствах галіны. У апытанні прынялі ўдзел звыш 2,6 тысячы чалавек.

Большасць апытаных заявіла, што іх матэрыяльнае становішча ў параўнанні з 1997 годам пагоршылася. Гэта пацвярджаюць і такія даныя: зарплату, якая перавышае 6 мільёнаў рублёў, маюць толькі 5,7 працэнта рэспандэнтаў. У большасці апытаных яна вагаецца ад 3 да 4,5 мільёна, у трэці працуючых — яшчэ больш нізкая.

Ільвіная доля заробленых сродкаў (70 працэнтаў), а ў большасці працоўных зарплата — адзіная крыніца даходаў, ідзе на харчаванне. Нядзіўна, што амаль 88 працэнтаў апытаных поўнасцю падтрымліваюць патрабаванні прафсаюзаў па павышэнні заработнай платы. На пытанне аб іх удзеле ў акцыях пратэсту, якія рыхтуюцца, больш чым палавіна рэспандэнтаў адказалі станоўча.

Аналізуючы вынікі анкетавання, высветлілі, што найбольш прымальнай формай акцый пратэсту рэспандэнты лічаць мітынгі і шэсці. У той жа час 21,6 працэнта апытаных такія меры не прымаюць, бо яны бескарысныя.

**БелТА.**

**Спорт**

# То ли патроны отсырели, то ли винтовка подвела...

Неординарный случай произошел во время тренировочных сборов в Австрии с белорусским биатлонистом Алексеем Айдаровым. Во время стрельбы одна из его пулек улетела в "молоко". Такого вообще не бывает у профессиональных мастеров, а уж у призера Олимпийских игр — тем более. Потому и вернулся озадаченным из австрийских Альп главный тренер белорусской сборной Владимир Плаксин.

"Самое печальное, — говорит он, — что трудно определить, в чем дело: то ли патроны "виноваты", то ли винтовка "барахлит". В конкретной ситуации и тестирование провести сложно, поскольку оружие немецкое, а боеприпасы русские. Правда, германская фирма "Динамит-Нобель" предложила свои бесплатные услуги, чтобы проверить наше оружие. При этом под каждый ствол подбирается наиболее приемлемая партия патронов. А их-то как раз у нас и нет, хотя заказ был сделан еще в мае. А потому от услуг фирмы пришлось отказаться".

По словам главного тренера, есть и другие проблемы в подготовке сборной. Поскольку уже 9 декабря состоится официальная гонка в зачет Кубка мира, то необходимо своевременно провести оставшиеся намеченные сборы, ибо к издержкам в стрельбе прибавится и лыжная подготовка. "Большинство сборных уже давно в Скандинавии, где и готовятся к международным стартам нынешнего сезона, — сказал Плаксин. — А мы пока на поездку туда ищем валюту. Вот так где-то теряем, где-то не справляемся, а потом чуть-чуть и "опаздываем" на пьедестал".

Биатлонная трасса в Раубичах, где сейчас находится сборная биатлонистов, покрылась свежим снегом. Прекрасной возможностью выйти на лыжню незамедлительно и воспользовались наши снежные снайперы. По традиции отсюда у них всегда начинается дорога к наградам и победам.

**Вячеслав ДУТОВ, БелТА.**

# Растуць цэны на гарэлку

У мэтах павышэння даходу бюджэту з 19 лістапада гэтага года фіксаваны рознічныя цэны на гарэлку. Як стала вядома карэспандэнту БелТА, яны павышаны ў сярэднім на 75 працэнтаў.

Акрамя таго, ад 50 да 100 працэнтаў павялічваюцца і залогавыя цэны на шклотару. Такое рашэнне прынята ў мэтах паскарэння яе абарачальнасці.

**БелТА.**

# Беларускі металургічны з аптымізмам глядзіць у будучыню

З імпарцёра дарагой металургічнай прадукцыі ў экспарцёра ператварыўся пасля рэканструкцыі трэцяй машыны электрасталеплавільнага цэха калектыў Беларускага металургічнага завода. Прадпрыемства не толькі забяспечыла высакаякаснай катанкай для вытворчасці металакорду ўласныя патрэбы, але і пачало пастаўляць яе ў Славакію, а ў бліжэйшы час партнёрам беларускіх металургаў стане вядомая італьянская фірма "Пірэлі". Ва ўмовах сусветнага крызісу, калі цэны на металапрадукцыю знізіліся ў сярэднім на 30 працэнтаў, толькі металакорд не закранула гэта, і ён дапамог калектыву завода ўтрымацца на плаву.

Новыя прагрэсіўныя тэхналогіі, з разлікам на XXI стагоддзе, закладваюцца ў аснову і іншых рэканструяваных аб'ектаў прадпрыемства. Напрыклад, на трэцяй сталеплавільнай печы ўпершыню ў сусветнай практыцы выплаўка сталі для металакорду будзе ажыццяўляцца ў аўтаматычным рэжыме. У ходзе рэканструкцыі завод не толькі не зніжае аб'ёмы вытворчасці, але і пастаянна нарошчвае іх.

**Віктар КОТАЎ, БелТА.**
г.Жлобін.

**Встречи**

# Предприниматели Республики Беларусь сделают все для того, чтобы из Чечни вернулись все белорусские ребята

К сожалению, официальные лица государства практически ничего не делают для разрешения вопросов, связанных с заложниками и военнопленными в Чечне. Остаются невыясненными судьбы многих наших белорусских ребят, которым присвоен статус "пропавший без вести". Не всегда то, что приходило в "цинке", соответствовало сопроводительным документам. Поэтому общественные организации пытаются решать данные вопросы самостоятельно, за счет собственных средств и сил.

Эти и другие вопросы обсуждались недавно в Варшаве председателем Гродненского профсоюза предпринимателей Валерием Левоневским и делегацией Республики Ичкерия в рамках третьей международной конференции по правам человека.

Стороны выразили желание расширить различные контакты между официальными и общественными структурами Республики Ичкерия и общественными организациями Республики Беларусь.

**Валерий ПЕЧОРСКИЙ.**

**P.S.** Кого интересует судьба своих близких, пишите нам по адресу: **230005, г.Гродно, а/я 63, (тел.72-00-72), прием граждан с 18 до 19 по адресу: г.Гродно, Ст.Батория 8-201 (г-ца "Неман").**

**На снимке:** *участники встречи — президент Республики Ичкерия Аслан Масхадов и председатель Гродненского профсоюза предпринимателей Валерий Левоневский.*

**Криминал**

# "Мерседес-Бенц" с мясной "начинкой"

В Мстиславском районе работники милиции задержали микроавтобус "Мерседес-Бенц-209," в котором находилось свыше полутонны мяса, расфасованного в пакеты по два килограмма. Его пытались незаконно вывезти через границу с Россией трое жителей Барановичей.

По решению Мстиславского районного суда микроавтобус и все мясо конфискованы в доход государства. Кроме того, каждый из этих трех "предпринимателей" оштрафован на 17 миллионов 500 тысяч рублей. Как сообщила корреспонденту БелТА председатель Мстиславского районного суда Полина Хамрителева, в нынешнем году это уже седьмая автомашина, которая задержана на границе с Россией и конфискована вместе с незаконно вывозимыми продуктами питания, промышленными товарами и строительными материалами.

**Николай НАЗАРОВИЧ, БелТА.**
г. Мстиславль.

# На Брэстчыне афіцыйна зарэгістравана каля 21 тысячы хранічных алкаголікаў

На сёння на Брэстчыне афіцыйна зарэгістравана каля 21 тысячы хранічных алкаголікаў. Урачы-нарколагі сцвярджаюць, што гэтая лічба — ніжэйшая за рэальную і не адлюстроўвае ў поўнай меры той сітуацыі з алкагалізмам, якая складваецца апошнім часам у вобласці.

Асабліва засмучае, што сярод алкаголікаў усё больш жанчын і дзяцей. Так, толькі ў гэтым годзе да адказнасці за сістэматычнае распіццё спіртных напояў прыцягваліся больш за 2 тысячы падлеткаў, каля 200 непаўналетніх пастаўлены на медыцынскі ўлік за сістэматычнае ўжыванне алкаголю.

Міліцэйская статыстыка таксама несуцяшальная і адзначае рост колькасці злачынстваў у стане алкагольнага ап'янення. Так, толькі ў Маскоўскім раёне Брэста за 10 месяцаў гэтага года за парушэнне антыалкагольнага заканадаўства затрымана больш за 9 тысяч чалавек, 88 з іх — за п'янства на вытворчасці. 13 аўтааварый на тэрыторыі раёна ўчынена па віне п'яных вадзіцеляў.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

# Праект для еўрарэгіёну "Нёман"

Азнаямленню з праектам "Рэгіянальнае развіццё і ахова прыроды ў еўрарэгіёне "Нёман" была прысвечана нарада, праведзеная ў Гродзенскім аблвыканкаме. У яе рабоце прымалі ўдзел прадстаўнікі каардынацыйнага бюро і праграмы Еўрапейскага саюза TACIC, кіраўнікі шэрага абласных службаў і ведамстваў.

Праект, для рэалізацыі якога выдзяляецца 1 мільён экю, адкрывае новую старонку ў дзейнасці створанага ў сярэдзіне мінулага года трансгранічнага супольніцтва — еўрарэгіёну "Нёман" — з удзелам Гродзенскай вобласці, Алітускага і Марыямпольскага паветаў Літвы, а таксама двух ваяводстваў Польшчы — Сувалкаўскага і Беластоцкага. Праектам прадугледжана ажыццяўленне не толькі розных прыродаахоўных мерапрыемстваў, але і развіццё турызму, стварэнне для яго неабходнай інфраструктуры. Сацыяльную выгаду ад гэтага атрымае насельніцтва, паколькі тут будуць створаны дадатковыя рабочыя месцы.

**Канстанцін БАЛАТЭВІЧ.**

# Объявлена война "невозвратным" кредитам

Состоялось заседание расширенной коллегии республиканской Прокуратуры. Основное внимание на нем было уделено вопросам соблюдения законодательства при выдаче и использовании кредитов. Это не случайно. Как известно, многие банки выдали кредиты, которые остаются "невозвратными" на протяжении многих лет.

Участники коллегии обязали МВД форсировать розыск лиц, получивших кредитные средства, но не возвративших их в банки. Как сообщили БелТА в республиканской Прокуратуре, сейчас долги различным банкам составляют более 22 миллионов американских долларов и около 9 миллионов немецких марок. Прокуратура предложила руководству Национального банка Беларуси разобраться с работниками, которые были причастны к выдаче кредитов несостоятельным клиентам.

**БелТА.**

# "Саюзны тэлевізар" — не марка, а праграма

Адраджэнне тэлевізійнай галіны стане асноўнай мэтай беларуска-расійскай фінансава-прамысловай групы "Электронныя тэхналогіі".

Як паведамілі карэспандэнту БелТА ў Міністэрстве прамысловасці рэспублікі, яна створана спецыяльна для рэалізацыі сумеснай праграмы "Саюзны тэлевізар". З беларускага боку ў яе ўвайшлі вытворчыя аб'яднанні "Гарызонт" і "Інтэграл", з расійскага — наўгародскае ВА "Квант", АТ "Маскоўскі завод "Рубін" і "Расійская электроніка".

На думку ўдзельнікаў праекта, кінескопы спачатку прыйдзецца купляць у замежных кампаній "Самсунг" і "Томпсан". Аднак, калі будзе адноўлена вытворчасць на Варонежскім электралямпавым заводзе, "саюзныя тэлевізары" атрымаюць сваю "начынку". Гэта, лічаць спецыялісты, дасць магчымасць зменшыць кошт складанатэхнічнай прадукцыі.

**Ігар ХОМІЧ.**

**Личное мнение**

# Беда, коль страной "рулит" кухарка

Сразу же оговариваю свою начальную позицию — нового вице-премьера белорусского правительства Александра Андреевича Попкова я абсолютно не знаю. Мне неизвестно, высок он или низок, блондин или брюнет, тощ или упитан... Равно как ничего не известно мне о его деловых качествах: умен?, энергичен?, умеет работать с подчиненными? и т.д. и т.п.

Не спорю, может, это кристально честный человек, инициативный хозяйственник, разумный руководитель. Все может быть. И все же, когда знакомишься с биографией нового куратора агропромышленного комплекса в правительстве страны, гложет сомнение — а справится ли он с таким тяжелым бременем?

Председатель райисполкома, около года первый секретарь райкома КПБ, директор арендного предприятия, снова председатель райисполкома... Работал в Шклове. Значит, хорошо знаком с президентом. Но это вряд ли основание для упрека. Конечно, кто-то может вспомнить Коноплева, Ермакову, Божелко и других шкловско-могилевских выходцев и заговорить о протекции со стороны главы государства своим землякам. Но ведь можно и возразить — приближает к себе тех, кого знает, с кем вместе работал.

Дело здесь не в Шклове, не в регионе. Дело в уровне. Что бы ни говорили о коммунистах, но в той системе кадровая работа была отлажена, как ни одна другая. Отлажена в том смысле, что перепрыгивания через несколько ступенек карьерной лестницы практически не встречалось. Для руководителя района, каким и являлся господин Попков, переход на работу в министерский аппарат был твердым и однозначным — заместитель министра. И не выше! Конечно, потом со временем, если человек попадал в струю, он мог продвинуться и дальше. Но с районного уровня выше замминистра не назначали. И тому было объяснение — существовали определенные критерии, которые, пусть и при известной доле формализма, все же давали возможность более-менее объективной оценки человека.

А в вице-премьеры, или, как тогда говорили, заместители председателя Совета министров, приходили совсем с других должностей. Беру сейчас просто наугад, по памяти, те фамилии, которые пришли на ум первыми. Хусаинов, до того как стать зампредом, поработал и председателем Гомельского облисполкома, и первым секретарем областного комитета партии. Колоколов пришел на зампредовскую должность с поста заведующего отделом ЦК. И таких примеров множество.

Нынешние же переходы, будь то из кресла председателя райисполкома в вице-премьеры или с должности районного прокурора в генеральные прокуроры страны, лично мне непонятны. Хотя и объяснимы. Четыре года тому назад многие в Беларуси верили, что достаточно громко заявить о желании запустить заводы, навести порядок, рассчитаться с пенсионерами телевизорами и холодильниками и т.д. и т.п. — и ты справишься со взваленной на себя ношей. Главное — было бы желание работать. Но жизнь показывает, а сегодня особенно — мало хотеть сделать что-то. Нужно еще и уметь это сделать. А если у человека этого умения нет, нет знаний, нет положительного опыта, зато с избытком фанаберии, то добра не жди. Как бы людям ни хотелось верить в чудо, но действительность убеждает — если нынешний президент Беларуси свой родной совхоз не сумел сделать передовым хотя бы в масштабах области, не говоря уже о республике, то тем более не "вывезет" он и всю Беларусь. Равно как и новый вице-премьер. Ибо ни Шклов, ни Кричев, где он работал, своими успехами по Беларуси не звенели.

**Владимир ГЛОД.**

**Паралелі**

# У карэце мінулага далёка не паедзеш

Прыгажуню Варшаву адразу ўспомніў, калі неяк аднойчы, будучы ў Віцебску, каля 50 хвілін днём на ветры і сцюдзёным паветры чакаў патрэбны мне нумар трамвая. Не, ніякай аварыі на той момант на трасе не здарылася. Не пашанцавала таму, што ў такім рэжыме, апроч гадзінаў пік, звычайна працуе наш грамадскі транспарт.

Мёрз я на вуліцы і па-добраму зайздросціў, як зладжана арганізаваны перавозкі людзей у суседняй краіне. У прыватнасці, у польскай сталіцы інтэрвал руху аўтобусаў і трамваяў раніцай і вечарам пасля працы — у межах 4—5 хвілін, астатні час — 10—12, у выхадныя дні і святы — да 15 хвілін. Прыпынкі для пасажыраў не толькі ў гэтым цудоўным горадзе, але ўжо ў большасці мястэчкаў Польшчы, у асноўным новыя, у выглядзе будак са спецыяльнага пластыку. У іх можна схавацца ад ветру і дажджу, старым — прысесці на лавачкі, можна ўсім паслухаць музыку, бо яны абсталяваныя прыёмнікамі папулярнага прыватнага радыё.

Аб людзях паклапаціліся яшчэ і тым, што паўсюды змясцілі расклады руху транспарту па кожным маршруце. І можаце не сумнявацца, гэтыя графікі па ўсёй краіне строга захоўваюцца. Меў шмат разоў у гэтым пераканацца і нават звяраць свой гадзіннік. Калі які польскі вадзіцель аўтобуса ці трамвая спозніцца або дрэнна абслужыць пасажыраў, калі ласка, тэлефануйце адпаведнаму ягонаму начальству, бо нумары гэтых службаў змешчаны на кожным прыпынку.

Вось гэтай сваёй культурай і адрозніваецца ад нас суседка, якая на справе імкнецца ўвайсці ў сям'ю цывілізаванай Еўропы. Для беларускай рэчаіснасці звыклымі сталі знерваваныя натоўпы людзей на прыпынках, часцяком штурм дзвярэй і язда, нібыта ў бочцы з селядцамі, у перапоўненых зношаных машынах. Толькі зараз у Віцебску, дзе да 70 працэнтаў транспарту падлягае спісанню, паспрабавалі крыху зменшыць вастрэйшую праблему.

Патрошку, збіраючы грошы, за апошнія паўгода ў абласным цэнтры з'явіліся на вуліцах яшчэ 18 аўтобусаў "Ікарус-280". Гэтыя машыны, праўда, не новыя, а капітальна адрамантаваныя па цане 55 тысяч долараў за адзінку. Усяго ж дзяржаўнай кампаніі "Віцебскаблаўтатранс" на вобласць удалося замяніць 70 аўтобусаў, а яшчэ каля ста самім падлатаць, каб з горам папалам выходзіць на лініі.

Калектыву Віцебскага ТТУ прыйшлося даспадобы сем новых эканамічных, хоць да канца яшчэ недапрацаваных, мінскіх тралейбусаў, а таксама два расійскія трамваі. Каб не абвастрыўся расійскі фінансавы крызіс, меркавалі закупіць для віцяблян яшчэ 6 тралейбусаў і 5 трамваяў, а 16 машын да канца года капітальна адрамантаваць. Але як гэта зрабіць, калі гума, акумулятарныя батарэі, асноўныя запчасткі падскочылі ў цане ў 2—5 разоў, адно кола для аўтобуса стала каштаваць 16—18 мільёнаў рублёў. Пасажырскі транспарт па-ранейшаму непрыбытковы і пры мізерных заробках вадзіцеляў прынёс толькі на гарадскіх і прыгарадных аўтаперавозках каля 40 мільярдаў рублёў страт. Далёкай марай для кіроўцаў застаецца сесці за руль прыгажуноў-аўтобусаў "Вольва", "Мерседэс", "Неаплан" з кандыцыянерам, барам, халадзільнікам, відэа, якія звыкла бегаюць цяпер па Польшчы.

Нават у глыбінцы ў суседзяў няма праблем, куды своечасова даехаць, бо рэйсы — па некалькі разоў на дзень. Скарачэнні ж прыгарадных маршрутаў, а то і адмены рэйсаў у нас трывала ўвайшлі ў моду. Да таго ж пыл, гразь, едкі дым старэнькіх машын пры абавязковай цесначе і даўцы не спрыяюць добраму настрою пры паездцы. Пра культуру абслугоўвання і ўзаемную непавагу паміж пасажырамі лепш прамаўчу. Заўважыў, што ў той жа Польшчы ўсё больш прыватных вадзіцеляў на маршрутах. Добрая рэч — здаровая канкурэнцыя, якая прымушае берагчы гонар сваёй фірмы, клапаціцца пра кожнага чалавека-пасажыра. Сам быў сведкам, як кіроўца шыкоўнага аўтобуса "Неаплан" па маршруце "Ольштын — Гданьск" падбіраў людзей на дарозе ў полі і лесе, калі яны падымалі руку.

Пазней я даведаўся, што ад памераў грашовай выручкі непасрэдна залежыць заробак аўтамабіліста. У нас жа працягваюць жыць устарэўшымі крытэрыямі і ранейшымі падыходамі да арганізацыі перавозак. Надзеі транспартнікаў Віцебшчыны на вяртанне на маршруты кандуктараў хоць і дазволілі павялічыць даходы, але прыбавілі шэраг новых клопатаў.

Многія кандуктары не вытрымліваюць нервовай і зменнай працы на нагах у цеснаце і таўкатні, атрымліваючы за гэта капейкі. У трамвайна-тралейбусным упраўленні Віцебска па гэтай прычыне не хапала 52 кандуктараў, у аўтапарку ўтварылся 30 вакансій. Дзесяткі былых работнікаў наогул кінуліся наўцёкі, прыхапіўшы з сабою грашовую выручку. Пэўны час на лініі без кандуктараў не выпускалі машыны, што толькі дабавіла клопатаў людзям на прыпынках. Каб не сарваць канчаткова і без таго напружаныя графікі руху, як выйсце — зноў у салонах асобных машын з'явіліся ранейшыя кампосцеры. Аднак гэтая мера — часовая, вернуць сюды людзей, якім нарэшце дадумаліся значна павысіць зарплату.

...У той дзень, калі нарэшце паказаўся доўгачаканы трамвай, нават павесялеў, што скончыліся мае пакуты. Безліч праблем сёння паўстала перад маладой беларускай дзяржавай. Без перабольшвання, ці не галоўнейшая з іх — транспартная. Толькі вось калі працягнем вырашаць яе сённяшнімі тэмпамі, заўтра наогул рызыкуем паралізаваць нармальнае жыццё.

**Уладзімір ШЫК.**

